

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№49 (1066) 17 сакавіка 1995 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 558399 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.


ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Ці не застаецца пустым гукам дэклараваная Канстытуцыяй свабода слова?

**10 сакавіка 1995 года ў "Народнай газеце" пад рубрыкай "Письмо Президенту" надрукаваны артыкул "Я терплю и буду терпеть сколько нужно и какие угодно лишения, работать не покладая рук, без сна и отдыха, но лишь когда буду уверен в счастливом будущем своей Родины — Беларуси". Аўтар у выразнай і вострай форме адлюстраваў шэраг складаных праблем, якія, на нашу думку, хвалююць сёння значную частку беларускага грамадства.**

**Гэтая публікацыя выклікала нечакана рэзкую рэакцыю ў найвышэйшым эшалоне выканаўчай улады. Рэдакцыю западозрылі ў падыгрыванні "пэўным палітычным сілам", наўмысным распальванні процістаяння ў грамадстве, жаданні "ўбіць клін" паміж народам і кіраўнічымі структурамі... З'явілася нават версія, быццам бы аўтара вышэйзгаданага артыкула ўвогуле не існуе, а матэрыял проста сфабрыкаваны.**

**Такая рэакцыя здзівіла нас, бо лісты і артыкулы, у якіх уздымаліся падобныя балючыя праблемы, рэгулярна з'яўляліся на старонках "Народнай газеты" і дагэтуль. Адлюстроўваць усю гаму грамадскіх думак і настрояў — гэта крэда парламенцкага выдання. Свабода выказвання поглядаў і меркаванняў — якраз тое, што адрознівае дэмакратычны лад ад таталітарнага. У рэшце рэшт, адпаведныя правы і свабоды дэкларававаны новай Канстытуцыяй Беларусі, нядаўна прынятым Законам аб друку. Дарэчы, новыя ўлады нястомна падкрэсліваюць свой дэмакратызм, павагу да Канстытуцыі і заклікаюць умацоўваць законнасць.**

**Ёсць, урэшце, адна акалічнасць, якая і сапраўды магла выклікаць напачатку пэўныя пытанні. Гаворка ідзе пра подпіс пад тым самым артыкулам. "Наверх" пайшла інфармацыя, быццам бы аўтар — "ліпавы". Мусім растлумачыць: аўтар зусім не "ліпавы" — а проста скарыстаў гарантаванае законам права на псеўданім. Яго сапраўдныя прозвішча і адрас рэдакцыі вядомы. Тое ж, што чалавек мусіць "падстрахоўвацца", наводзіць на сумны роздум, як кепска яшчэ выглядаюць у нас справы з галоснасцю, крытыкай, плюралізмам.**

**Мы лічым, што справы гэтыя павінны паляпшацца пры актыўным удзеле вышэйшых улад. Тым болей што вялікая частка рэдакцыйнай пошты ўтрымлівае вострыя пытанні, адрасаваныя персанальна кіруючым асобам дзяржавы. Мы заўсёды імкнёмся даваць слова на старонках газеты і тым, супраць каго скіравана вастрыё крытыкі, рэгулярна растлумачваць палітыку дзяржаўнага кіраўніцтва па тых ці іншых хвалюючых пытаннях. Дарэчы, і на гэты раз рэдакцыя прапанавала Прэзідэнту выкласці праз газету сваю пазіцыю. Адкрыты дыялог улад з народам асабліва важны ў напружанай палітычнай сітуацыі напярэдадні выбараў. Так лічым мы, журналісты. Спадзяёмся, што так лічаць і тыя, каму народ даверыў уладныя паўнамоцтвы.**

***РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ "НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ".***

РОЗДУМ

## Гэта вялікае слова — закон


**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, дэпутат Вярхоўнага Савета, былы член Канстытуцыйнай камісіі**


Першыя вясновыя дажджы нагляднымчынам пацвердзілі: прырода жыве па ўласцівых ёй спрадвеку законах, па законах кругавароту, змены пораў года, цыклічнага абнаўлення. І, можа, менавіта гэтая вось "законнасць", прадвызначаная натуральнасць з'яў у прыродзе абнадзейвае і духоўна падмацоўвае нас. Асабліва напрадвесні.

Кант гаварыў, што рэчаіснасць не можа загінуць натуральна, паколькі ў натуральных законах жыцця няма ніякага ўказання на яе магчымую гібель. Але яна не можа загінуць і звышнатуральна, таму што інакш прыйшлося б дапусціць нейкую больш магутную істоту, чым сама рэчаіснасць, якая раптам знішчыла б гэтую рэчаіснасць як дрэнную, накшталт сталяра, які знішчае ім жа самім няўдала зробленую табурэтку. Ні натуральна, ні звышнатуральна свет загінуць не можа. Ён, лічыць Кант, можа загінуць супрацьнатуральна, а менавіта ў такім выпадку, калі самі людзі паставяць сабе вар'яцкія ідэі і пачнуць іх усур'ёз ажыццяўляць.

Закон — слова шматзначнае. Тлумачальныя слоўнікі даюць, як правіла, цэлы рад яго значэнняў. Гэта і "абавязковае для ўсіх правіла, устаноўленае вышэйшым органам дзяржаўнай улады, якое мае найвышэйшую юрыдычную сілу"; гэта і "агульнапрынятае правіла грамадскіх паводзін, звычай"; гэта і "асноўныя палажэнні ў якой-небудзь справе, абумоўленыя яе сутнасцю"; гэта і "пастаянная, аб'ектыўна існуючая сувязь паміж з'явамі, якая вынікае з прыроды саміх рэчаў, заканамернасць"... Такая тут атрымліваецца градацыя. Але калі прыглядзецца бліжэй ды разабрацца, то прыходзіш да высновы: вельмі ўжо дае сябе адчуваць агульны корань, вельмі ўжо блізкія, роднасныя па сваёй глыбіннай сутнасці гэтыя значэнні. Хіба, скажам, закон як нарматыўна-прававы акт не можа і не павінен не ўлічваць агульнапрынятыя правілы паводзін, норавы, звычаі, традыцыі? Або ігнараваць прыроду і становішча рэчаў у грамадстве, сацыяльныя заканамернасці?

Антычныя заканадаўцы не аддзялялі, не адмяжоўвалі адно ад другога права юрыдычнае і права натуральнае. Яны лічылі, што "правасуддзе — аснова дзяржавы", што "там, дзе моцныя законы — там і народ моцны". Але ў той жа час сцвярджалі, што права — гэта "мастацтва дабра і справядлівасці", прызнавалі "права роду людскога", г.зн. натуральнае права чалавека. Наш Скарына таксама лічыў, што праватворчасць павінна грунтавацца на паняццях дабра, справядлівасці і чалавекалюбства, што юрыдычныя законы фармулююцца на аснове законаў людской маралі, і перш за ўсё на аснове прыроднага агульначалавечага прынцыпу "то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети" (гэта, як вядома, і залатое біблейскае правіла). А слынны выдавец Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года Леў Сапега быў перакананы, што закон павінен прадугледжваць "за неучастивые справы слушнае каранне", а за цнатлівыя — "пристойную заплату" і што менавіта такі закон "ест цель и конец всих прав на свете".

Законы прыроды. Законы жыцця. Законы маралі. І, нарэшце, законы юрыдычныя, законы як крыніца права, законы як умова разумнай, рацыянальнай, цывілізаванай арганізацыі грамадскага жыцця, стварэння прававой дзяржавы.

Ні натуральна, ні звышнатуральна свет загінуць не можа. Ён можа загінуць супрацьнатуральна. І, як чалавецтва пераканалася на горкім вопыце, тады, у прыватнасці, калі з'яўляюцца "месіі", якія пачынаюць дзяліць грамадства на сваіх і чужых, на групы і класы, сеюць паміж імі варожасць і адзін з гэтых класаў аб'яўляюць гегемонам, дыктатарам. Інакш кажучы, супрацьпастаўляюць сіле права права сілы, прынцыпу ўзаемнай выгады і згоды — прынцып "хто каго!". Выступаючы на VI з'ездзе Саветаў, У.Ленін ничтоже сумняшеся зазначыў: "Мы знаем, что эта Советская конституция, которая в июле (10 ліпеня 1918 г. — **А.В.**) утверждена, что она не выдумана какой-нибудь комиссией, не сочинена юристами, не списана с других конституций. В мире не бывало таких конституций, как наша. В ней записан опыт борьбы и организации пролетарских масс против эксплуататоров и внутри страны, и во всем мире". Як бачым, шматвяковы сусветны вопыт развіцця прававой думкі, канстытуцыйнага ўладкавання грамадскага жыцця адкідваўся на сметнік гісторыі як нешта непатрэбнае.

Прыкладна ў такім жа духу выкладаліся першыя радкі Канстытуцыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ад 11 красавіка 1927 года, дзе ўрачыста абвяшчалася, што "гэтая Канстытуцыя... мае сваёй задачаю забяспечыць дыктатуру пралетарыяту для прыдушэння буржуазіі".

Потым так званым Асноўным Законам рэспублікі былі сталінская Канстытуцыя 1936 года, брэжнеўская 1977 года... Трагічны парадокс заключаўся ў тым, што беларусы, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да стварэння такіх сусветна вядомых і прызнаных помнікаў права, як Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года, як Канстытуцыя Рэчы Паспалітай ад 3 мая 1792 года (трэцяя ў свеце дэмакратычная Канстытуцыя), мелі на сваім гістарычным рахунку такі інтэлектуальны праватворчы набытак, сапраўды сваёй канстытуцыі не мелі. І не мелі права яе пісаць, хаця лічыліся "рэспублікай" і называліся "суверэннай савецкай сацыялістычнай дзяржавай". І нават не мелі права помніць і ўспамінаць сваё мінулае, ганарыцца ім.

Так што давайце сёння, гаворачы словамі паэта, белым каменьчыкам адзначым усё ж дзень 20 ліпеня 1990 года — дзень, калі была прынята пастанова Вярхоўнага Савета рэспублікі аб тым, каб выбраць Канстытуцыйную камісію і даручыць ёй распрацаваць праект новай Канстытуцыі, апублікаваць яго для абмеркавання і ўнесці на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета. І давайце другім, можа, большым па памеру белым каменем (у дадатак да чырвонага запісу ў календары) адзначым дзень 15 сакавіка 1994 года — дзень прыняцця сваёй, самімі напісанай Канстытуцыі, Канстытуцыі суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь.

Знайшоў у сваім дэпутацкім блакноце наступны запіс: "15 сакавіка, аўторак, ранішняе пасяджэнне. Пачалося з абмеркавання папраўак да праекта Канстытуцыі. Чую ўсё тыя ж, знаёмыя, як кажуць, да болю "за" і "супраць", тыя ж доказы. Перацягванне каната прадаўжаецца. Калі ўсё ж Канстытуцыя будзе прынята? Сёння, заўтра ці ніколі? Пасля першага перапынку пачалося галасаванне. 236 — "за", 6 — "супраць", 8 устрымаліся. Наш новы Асноўны Закон нарэшце прыняты! Час: 12.35. У другой палавіне дня, — працяг запісу ў блакноце, — на вячэрнім пасяджэнні быў прыняты і Закон "Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь". Падчас абмеркавання, выступленняў па матывах галасавання выказваліся розныя думкі наконт таго, ці трэба дзень прыняцця Канстытуцыі абвяшчаць святочным днём. Галасаванне паказала, што трэба: 236 — "за", 4 — "супраць", 4 устрымаліся. Як тут не прыгадаць нашага класіка: "Дзень Канстытуцыі сягоння — вялікі дзень, святочны дзень!" Без іроніі. Што дрэннага ў тым, што паэт звязваў спадзяванне на лепшую долю, на лепшае жыццё для свайго народа з Канстытуцыяй, Законам?..


**(Заканчэнне на 2-й стар.)**


## Мечыслаў Грыб пацікавіўся металаапрацоўкай

Міжнародная выстава, што праходзіць гэтымі днямі ў выставачным комплексе "Мінскэкспа", стала ўжо традыцыйнай. Яна знаёміць з прамысловай вытворчасцю Беларусі, з тэхналагічным абсталяваннем, якое выкарыстоўваецца пры апрацоўцы металу.

Удзельнічаюць у выставе металаапрацоўчыя прадпрыемствы Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Швейцарыі, Францыі, Літвы.

Экспазіцыя выклікала жывую зацікаўленасць сярод спецыялістаў, наведвальнікаў.

Учора госцем выставы быў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб.

**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ,**
**фота аўтара**

### Да ведама дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Шаснаццатая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 20 сакавіка 1995 года ў 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### Аб узнагароджанні мітрапаліта Філарэта (Вахрамеева К.В.) медалём Францыска Скарыны

За шматгадовую плённую дзейнасць па адраджэнню, захаванню, развіццю духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа ўзнагародзіць мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта (Вахрамеева Кірыла Варфаламеевіча) медалём Францыска Скарыны.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

№104 14 сакавіка 1995 г. г.Мінск.

### П.Краўчанку не вылучылі ад ПНЗ

Прэс-цэнтр БСДГ заяўляе, што паведамленне ў сродках масавай інфармацыі аб вылучэнні Пятра Краўчанкі, сябра Цэнтральнай рады БСДГ, кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета ад Партыі народнай згоды не адпавядае рэчаіснасці.

### Были вооружены и опасны...

***Сотрудниками Оршанского горотдела милиции задержаны опаснейшие преступники, которые приехали в город из столицы Беларуси.***

На троих из группы был объявлен республиканский розыск, что и помогло сотрудникам ГОВД быстро установить личности арестованных, виновных в убийствах и грабежах. За короткий срок оршанских "гастролей" бандиты с помощью нового, четвертого члена шайки из местных успели убить водителя "Жигулей", совершить разбойное нападение на женщину и тяжело ранить кинжалом молодого человека. Подробности о случившемся — в одном из ближайших номеров "Народной газеты".

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### "Травят" третью власть

Не думали не гадали работники Верховного суда республики, что сидят они, в прямом и переносном смысле, на мини-"реакторе". По крайней мере, подтвердить данное утверждение дают основание контрольные замеры вредных химических веществ в "воздушной среде". Они показали, что количество оксида азота в кабинетах превышает допустимую концентрацию от 1,8 до 9,1 раза, а формальдегида — от 1,3 до 10,3 раза.

Откуда же в здании Верховного суда эти "отравляющие" вещества?

Предполагается, что отрава идет из цокольного помещения здания, где размещена химическая лаборатория Института экспертизы Министерства юстиции. Оснащена она допотопным оборудованием, совершенно не приспособлена для вентилирования вытяжка.

И когда в лаборатории проводятся опыты, вся "химия" просачивается в рабочие кабинеты главных судей страны. А в заключении начальника Госэкспертизы появляется запись: "Условия труда классифицируются как вредные и тяжелые II степени, общая суммарная оценка составила 6 баллов".

Эти выводы всполошили профком Верховного суда. Масла в огонь добавило и то обстоятельство, что за последние годы в расцвете сил ушли из жизни 4 судьи. Многие связывают этот факт с деятельностью лаборатории.

А что же в данной ситуации говорят санитарные службы? Пока, увы, ничего, кроме замеров воздуха в последние 8 лет и констатации фактов, что формальдегида и оксида азота в кабинетах бывает в 2—3 раза выше нормы...

**Адам ОСТАША.**

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

## Аб зацвярджэнні Палажэння аб юбілейным медалі "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.", апісання медаля і ўзору пасведчання да яго

У сувязі з устанаўленнем Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь юбілейнага медаля "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг." **пастанаўляю:**

Зацвердзіць:

прыкладзенае Палажэнне аб юбілейным медалі "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг."; апісанне юбілейнага медаля "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг." і ўзор пасведчання да яго.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

№102 14 сакавіка 1995 г.
г.Мінск.

## Палажэнне аб юбілейным медалі "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг."

1. Юбілейным медалём "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." узнагароджваюцца:

ваеннаслужачыя і асобы вольнанаёмнага складу, якія прымалі ў радах Узброеных Сіл СССР удзел у баявых дзеяннях на франтах Вялікай Айчыннай вайны, партызаны Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікі падполля, ваеннаслужачыя і асобы вольнанаёмнага складу, якія служылі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ва Узброеных Сілах СССР, асобы, узнагароджаныя медалямі "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." або "За перамогу над Японіяй", а таксама асобы, якія маюць пасведчанне да медаля "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." або пасведчанне ўдзельніка вайны;

працаўнікі тылу, узнагароджаныя за самаадданую працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны ордэнамі СССР, медалямі "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.", "За працоўную доблесць", "За працоўную адзнаку", "За абарону Ленінграда", "За абарону Масквы", "За абарону Адэсы", "За абарону Севастопаля", "За абарону Сталінграда", "За абарону Кіева", "За абарону Каўказа", "За абарону Савецкага Запаляр'я", а таксама асобы, якія маюць знак "Жыхару блакаднага Ленінграда" або пасведчанне да медаля "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.";

былыя вязні канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны.

2. Уручэнне юбілейнага медаля "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." праводзіцца ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

асобам, звольненым з Узброеных Сіл былога СССР і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, — ваеннымі камісарыятамі па месцы жыхарства;

асобам, якія выбылі з органаў унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі і іх вайсковых фарміраванняў былога СССР і Рэспублікі Беларусь, — ваеннымі камісарыятамі па месцы жыхарства або адпаведнымі міністэрствамі і іншымі цэнтральнымі органамі кіравання;

працаўнікам тылу, былым партызанам і ўдзельнікам падполля, іншым катэгорыям грамадзян — мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

3. Юбілейны медаль "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." носіцца на левым баку грудзей і размяшчаецца пасля юбілейнага медаля "Сорак гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.".

### Апісанне юбілейнага медаля "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг."

Юбілейны медаль "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг." вырабляецца з тампаку і мае форму правільнага круга дыяметрам 32 мм. На пярэднім баку медаля размешчаны выявы Крамлёўскай сцяны са Спаскай вежай, храма Васілія Блажэннага і святочнага салюту. У ніжняй частцы медаля маюцца выява ордэна Айчыннай вайны і лічбы "1941—1945", па акружнасці — лаўровыя галінкі.

На адваротным баку медаля ў цэнтры размешчаны надпіс "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.", унізе па акружнасці — лаўровы паўвянок.

Краі медаля абрамлены борцікам. Усе надпісы і выявы на медалі выпуклыя.

Медаль пры дапамозе вушка і кальца злучаецца з пяцівугольнай калодачкай, абцягнутай чырвонай шаўковай муаравай стужкай шырынёй 24 мм. З левага краю стужкі маюцца тры чорныя і дзве аранжавыя падоўжаныя палоскі шырынёй 2 мм.

Крайнія чорныя палоскі абрамлены аранжавымі палоскамі шырынёй 1 мм.

ГРАМАДЗЯНЕ, ПАСЛУХАЙЦЕ МЯНЕ

## Хочуць задушыць прамысловасць, але не чапаць ценявую эканоміку


**Уладзімір НОВІК, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і паслугах насельніцтву**


3 сакавіка гэтага года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў папраўкі да Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання" ад 29.12.94 года. Пасля гэтага ў сродках масавай інфармацыі з'явіліся заявы Прэм'ер-міністра М.Чыгіра аб тым, што ўрад не збіраецца выконваць рашэнні парламента, а Прэзідэнт не падпіша прынятых Вярхоўным Саветам законаў і яны не будуць дзейнічаць.

Што ж, нішто ўжо не здзіўляе нашых падаткаплацельшчыкаў. Урад, здаецца, узяў за мэту задушыць беларускую прамысловасць з дапамогай падатковага прэса. Хаця Праграма неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу, прапанаваная Прэзідэнтам і зацверджаная Вярхоўным Саветам, прадугледжвала зніжэнне падатковай нагрузкі ў сярэднім з 30 да 22 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту, стварэнне спрыяльнага падатковага рэжыму для экспартна-імпартных аперацый. Пры гэтым адзначалася, што асобая ўвага будзе ўдзелена скарачэнню або дыферэнцыяцыі ставкі падатку на дабаўленую вартасць. Заявы прэм'ер-міністра супярэчаць прэзідэнцкай праграме, а намер Вярхоўнага Савета рэалізаваць палажэнні антыкрызіснай праграмы ў законах прэм'ер-міністр разглядае як спробу фінансавання дэпутатамі перадвыбарнай кампаніі. Мне здаецца, што, мякка кажучы, наш прэм'ер, карыстаючыся манаполіяй на прэс-канферэнцыі і сродкі масавай інфармацыі, лішні раз намагаецца дыскрэдытаваць заканадаўчы орган улады, калі апошні намагаецца паправіць свае памылкі. У сувязі з гэтым хочацца толькі спадзявацца, што новы Вярхоўны Савет зможа змяніць у лепшы бок падатковую і бюджэтную палітыку, заставіць выканаўчую ўладу рэалізоўваць яе і несці адказваць за яе парушэнне.

Калі ў цэлым прааналізаваць эканамічную сітуацыю ў Беларусі (узяць хаця б падатковую, экспартна-імпартную і мытную палітыку), то складаецца ўражанне, што наш урад стварыў ідэальныя ўмовы для функцыяніравання ценявой эканомікі і карупцыі, наадварот, невыносныя ўмовы для функцыяніравання легальнай эканомікі, гэта значыць той эканомікі, якая кантралюецца дзяржаўнымі падатковымі, мытнымі або іншымі кантрольнымі органамі. Тое, што ўрад часта ігнаруе законы, якія ўжо ўступілі ў дзеянне, гэта ўжо не навіна. Навіной з'яўляецца тое, што ўрад заяўляе наперад аб невыкананні ім законаў. Гэта ўжо антыканстытуцыйныя дзеянні.

Так, напрыклад, згодна з законам "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання" ад 29.12.94 года, усе юрыдычныя і фізічныя асобы, якія займаюцца рэалізацыяй прадукцыі (работ, паслуг) за наяўны разлік праз стацыянарныя гандлёвыя (абслуговыя) пункты, абавязаны з 1 студзеня 1995 года ажыццяўляць прыём грашовых сродкаў з выкарыстаннем касавых падсумоўваючых апаратаў або спецыяльных камп'ютэрных сістэм, зарэгістраваных у дзяржаўнай падатковай інспекцыі. Для чаго гэта зроблена? Каб узяць пад жорсткі кантроль дзяржавы таварны і грашовы абарот у першую чаргу ў камерцыйным гандлі, дзе круцяцца велізарныя грошы, квітнее так званая ценявая эканоміка, непадкантрольная дзяржаве. Аднак выканаўчая ўлада ігнаруе гэту норму закона, праваахоўныя органы бяздзейнічаюць, што спрыяе росквіту ценявой эканомікі і падрыву дзяржавы.

У грамадстве расце незадаволенасць і сацыяльная напружанасць у сувязі з бяздзейнасцю органаў выканаўчай улады адносна парушэння Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў", які прызначаны для навядзення парадку ў сферы гандлю і аказання паслуг насельніцтву. Асаблівыя нараканні выклікае рознічны гандаль на вуліцах у дрэнна прыстасаваных для гэтага кіёсках і латках (так званых "камках"), дзе часта прадаецца няякасны або кантрабандны тавар, адсутнічае кантроль за грашовым і таварным абарачэннем.

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і паслугах насельніцтву яшчэ ў студзені рэкамендавала да 1 сакавіка 1995 года Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў" і часткай 1 раздзела А Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання" ад 29.12.94 года распрацаваць і зацвердзіць Дзяржаўны рэестр касавых суміруючых апаратаў і камп'ютэрных сістэм, а таксама адпаведныя патрабаванні да праграмнага забеспячэння такіх камп'ютэрных сістэм, якія дазваляецца ўжываць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пры рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) за наяўны разлік. Гэта норма закона таксама не рэалізавана. А навядзенне парадку ў камерцыйным гандлі магло б значна папоўніць дзяржаўную казну і зменшыць справядлівыя нараканні насельніцтва. Тады б, магчыма, не трэба было выціскаць апошнія сокі з прамысловасці, каб хоць неяк папоўніць бюджэт.

Галоўныя папраўкі да законаў, прынятыя Вярхоўным Саветам 3 сакавіка гэтага года, датычаць адмены падатку на дабаўленую вартасць на прадукцыю (работы, паслугі), якая рэалізуецца за межы Беларусі, а таксама змяншэння падатку на нерухомасць з 3 да 1 працэнта. Гэтыя падаткі, як вядома, адсутнічалі ў 1994 годзе і былі прыняты Вярхоўным Саветам напрыканцы мінулага года па прапанове Прэзідэнта, хаця ў антыкрызіснай прэзідэнцкай праграме прадугледжвалася адваротнае.

Падатак на дабаўленую вартасць у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1995 год" складае 3 трыльёны рублёў або 23 працэнты ад усёй даходнай часткі бюджэту. Паводле ацэнак урада, адмена падатку на дабаўленую вартасць на тавары, якія пастаўляюцца за межы Беларусі, выкліча недапаступленне ў бюджэт 1,3 трыльёна рублёў. Але Закон "Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1995 год" даручаў Кабінету Міністраў да 15 лютага разгледзець прапановы аб увядзенні транзітных падаткаў і збораў з юрыдычных і фізічных асоб, павышэнні платы за зямлю і прыродныя рэсурсы. Урад зноў жа праігнараваў і гэта палажэнне закона. У суседняй Польшчы транзітныя падаткі і зборы складаюць 5,5 мільярда долараў ЗША ў год і займаюць чацвёртае месца па значэнню бюджэтных паступленняў.

Ва ўрадавых структурах зроблены адпаведныя разлікі, і кампенсаваць адмену падатку на дабаўленую вартасць для экспартуемых тавараў можна якраз за кошт увядзення транзітных падаткаў і збораў. У дадатак можна сказаць, што павышэнне падатку на бензін і дызельнае паліва дапамагло палепшыць сітуацыю на гарадскім і чыгуначным транспарце, знайсці датацыі для сельскай гаспадаркі. Ёсць яшчэ і іншыя крыніцы папаўнення бюджэту. Вось чаму 3 сакавіка група дэпутатаў звярнулася да Прэзідэнта з просьбай даць даручэнне Кабінету Міністраў да 20 сакавіка прадставіць у Вярхоўны Савет новую канцэпцыю падатковай палітыкі, накіраваную на стварэнне ўмоў для эфектыўнай працы і абарону эканамічных інтарэсаў Беларусі. Вярхоўны Савет пакуль што нічога ад урада не атрымаў.

Дарэчы, новы 5-працэнтны падатак ад тавараабароту, які быў уведзены па прапанове Прэзідэнта з мэтай навядзення парадку ў камерцыйным гандлі, у параўнанні са старымі 30 працэнтамі падатку ад прыбытку значна павялічыў сумы адлічэнняў з гаспадарчых суб'ектаў, але парадку ў камерцыі так і не навёў. Хто не верыць, хай сходзіць на мінскі стадыён "Дынама", там нічога не змянілася. Да таго ж у даходнай частцы бюджэту адсутнічае артыкул аб 5-працэнтным падатку з тавараабароту, не зафіксавана сума паступленняў ад яго, таму пракантраляваць яго практычна немагчыма, што спрыяе злоўжыванням і незаконнаму пераразмеркаванню бюджэтных сродкаў.

